Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 3 (55) | Вільня, 11-га лютага 1935 г. | Год 3-ці.

## Хадэцкая спэкуляцыя чужымі заслугамі.

Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя або, у скарочаньні, Хадэцыя, дзякуючы маларазьвітасьці нашага грамадзкага жыцьця, ужо даволі шмат часу спэкулюе зусім чужымі заслугамі ў беларускім вызвальным руху, бо добра ведама, што напрыклад у абвешчаньні беларускай незалежнасьці 25 сакавіка 1918 году хадэцыя ніякага голасу не падавала, а тымчасам ня сьціхае трубіць аб сваім імкненьні да гэтае незалежнасьці.

Ніхто з тых, хто тыя ці іншыя заслугі перад народам беларускім мае, не пярэчыць падобнай хадэцкай спэкуляцыі, а цёмныя адзінкі прабуджаных да нацыянальнае актыўнасьці беларускіх прасьцячкоў бяскрытычна глядзяць на пахварбованае чужымі хварбамі хадэцкае палітычнае пер'е і гатовы часам наіўна паверыць, што хадэцыя наша давядзе Беларусь да... лепшай долі.

Хадэцыя не перастае трубіць у сваёй „Беларускай Крыніцы“ аб незалежнасьці.

Беларускі прасьцячок не раскумякае, калі часам хадэцкі орган напіша і гэтак:

... *„незалежная Літва з магчыма найбольшай беларускай тэрыторыяй“*...

Прасьцячок не дагадаецца, што гэткі вось запраўдны ідэал беларускае хадэцыі, што прапагаваць ідэю падобнае канцэпцыі хадэцыя ўзяла на сябе падрад ужо даўно.

Прасьцячок не стаўляе перад сабой пытаньня, *чаму гэта ў хадэцыі няма і ніколі ня было а ніводнага з беларусаў, прыняўшых 25 сакавіка 1918 году акт аб беларускай незалежнасьці?*

Ды прасьцячок часта і ня ведае, што ня ўсе гэтыя незалежнікі 1918 году папалі ў лапы сталінскага ГПУ, ня ведае, што аж пяць беспасярэдніх віноўнікаў акту 25 сакавіка 1918 году сяк-так жывуць і дасюль пад Польшчаю (4 ў самай Вільні і 1 на правінцыі), два прабываюць у Чэхіі, адзін у Латвіі ды адзін аж у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах.

Калі-б хадэцыя ня служыла мэтам літоўскага імпэрыялізму, а шчыра баролася за беларускую незалежнасьць, дык пэўна-ж хоць адзін хто-небудзь з гэтых нотарычных беларускіх незалежнікаў быў-бы ў радох хадэцыі, або хоць супрацоўнічаў-бы з ёю, калі не на палітычным, дык хоць-бы на культурным яе сэктары.

Іменаў гэтых людзей, дзеля вельмі зразумелых прычын, мы тут не называем, аднак-жа констатуем, што ніхто з іх да хадэцыі не належыць і не належаў ніколі а ніводнае гадзіны. Не супрацоўнічаюць з хадэцыяй ні эмігранты-незалежнікі, ні тутэйшыя незалежнікі 1918 году.

Спэкуляцыя чужымі вартасьцямі адбываецца ў хадэкаў таксама і на культурным полі.

Культурным сваім (дый ня толькі сваім, а агульна-беларускім!) цэнтрам хадэкі лічаць Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

А, як ведама, да жыцьця выкліканы быў гэты Інстытут зусім не хадэкамі: паўстаў ён па ініцыятыве б. сэнатара А. Уласава пры падтрыманьні таксама сэнатара-паляка п. Крыжаноўскага.

Капрыз нашага руху зрабіў тое, што Інстытут папаў у хадэцка-ксяндзоўскія рукі. Папаў і замёр ад інтэлектуальнай хадэцкай худасочнасьці, ад вузкасьці парафіяльнага пагляду хадэкаў на яго задачы.

Некаторых наіўных вясковых прасьцячкоў хадэкам удалося дзе-ня-дзе ўцягнуць у лёкальныя вясковыя гурткі Інстытуту, тым часам як у цэнтры кіраўнічыя, паводле статуту, становішчы абсаджваюцца нават пешкамі, і хадэцкай моладзі прыходзіцца шрайбаваць аб „навуковай сіле“ свайго „вечнага“ студэнта, які за паўтара дзесятка гадоў ледзь пералез, нарэшце, не такі ўжо здаецца і трудны, курс юрыдычнае унівэрсытэцкае навукі.

Аб палітычнай спэкуляцыі шыльдам замарожанага часам Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту нявcovarta і гаварыць.

І ў імя чаго вядуць нашыя хадэкі ўсю гэту спэкуляцыю чужымі шыльдамі, чужымі лёзунгамі ды чужымі заслугамі?

Проста ў імя абдурэньня яшчэ хоць адзін раз беларускіх гаротных масаў.

Ходзіць чутка, што скора маюць быць выбары ў Польскі Сойм. Чаму-ж не спрабаваць хадэкам правясьці ў гэты Сойм галасамі прасьцячкоў яшчэ раз пары сваіх арганістых, па прыкладу 1927 году?

Адсюль і дыскусія ў „Бел. Крыніцы“ над абнаўленьнем БХД, аб зьмене нават назову яе, бо стары, ў вачох народных масаў, моцна выліняў, што найлепш сьведчыць аб ідэолёгічным банкруцтве гэтае ксяндзоўскае партыі.

Яе ўласная ксяндзоўска-прафэсіянальная ідэолёгія вельмі абмяжованая, бо зводзіцца яна толькі да ўвядзеньня ў касьцёл беларускіх пропаведзяў ды кантычак, якія можна друкаваць у друкарні імя Ф. Скарыны, да заваяваньня хоць на кароткі час каталіцкім клірам прымату ў беларускім нацыянальным руху. Хто ня помніць дэвотычнага панэгірыка аднаму з ксяндзоў-беларусаў, зьмешчанага ў свой час у „Б. Крыніцы“?

А калі свая ўласная хадэцкая ідэолёгія завузкая на тое, каб захапіць больш-менш шырокія народныя масы, дык чаму-ж не спэкульнуць чужымі заслугамі, ня прыкінуцца „незалежнікамі“?

Прасьцячок не разьбярэцца дый дзябане ў гэткую прынаду, калі абцягнуць яе скуркай „абнаўленьня“.

Не прасьцячок, а селянін з здароваю галавою не панадзіцца і на новую хадэцкую скурку, а напэўна будзе разважаць, гледзячы на „абноўленую“ БХД, так, як той мужычок з крыловскае байкі:

*„Хоть ты и в новой коже,*
*Да сердце у тебя всё то же“.*

## Родная мова у школе

(Гл. № 2 Род. Кр.—Аб „материнскомъ языкѣ или же мѣстномъ нарѣчіи“).

Кожнаму, хто толькі стыкаўся з нашымі сялянамі, пэўне, давялося чуць аб нараканьнях з іх боку на сучасную школу, на тое, што цяпер неяк інакш вучаць, што дзіця па некалькі гадовай навуцы ня можа расчытаць павесткі, наказу ці чаго там іншага, а з пісаньнем дык яшчэ горш.

Ня будзем моцна бараніць польскае школы на нашых землях, якая, прынамся дасюль, мела шмат хібаў, але цяпер дзеці пачынаюць хадзіць у школу ў вельмі маладым веку (ад 7-га году), тады як даўней пачыналі пасылаць у школу 8-ёх, 9-ёх, а нават 11-ёх і 12-ёх-гадовых, калі дзіця ўжо больш можа працаваць. Галоўная-ж прычына слабога пасьпеху у навуцы беларускіх дзетак была даўней ды ёсьць і цяпер у тым, што навука ў школе адбывалася і адбываецца пераважна ў чужой, мала зразумелай нашым дзецям, мове,— даўней расейскай, а цяпер польскай. Але ў сучаснай школе зьяўляецца новы цяжар для нашага дзіцяці, бо-ж да польскае мовы дадаецца яшчэ „материнскій языкъ или мѣстное нарѣчіе“, прасьцей кажучы, расейская мова, на якой выкладаецца у большасьці школаў Закон Божы і якую нашы дзеці да школы ніколі ня чулі ды й чуць не маглі.

Трэба толькі дзівіцца вынасьлівасьці ды цярплівасьці беларускіх дзетак, якія нат пры такіх умовах патрапляюць сяму-таму навучыцца ў школе.

Праўда, часам і ў маленькіх душах зьяўляецца нездаваленьне, можа нават пратэст, што так добра адмаляваў у сваім клясычным творы „Новая Зямля“ наш вялікі пясьняр Я. Колас у разьдзеле пад загалоўкам „Начаткі“ (даўнейшы падручнік па Закону Божаму ў расейскай мове, якім, можа, карыстаюцца нашыя законавучыцелі і дасюль). Мусіць нікога ня трэба пераконваць у тым, што большасьць школьнікаў, праслухаўшы апавяданьні Сьвяшчэннай Гісторыі ў зразумелай для іх мове, патрапіць адразу іх паўтарыць у тэй самай мове. А колькі-ж Алесяў, Сымонкаў ды іншых дзетак цярпела ды, пэўне, і дагэтуль церпіць за гэныя апавяданьні ў незразумелай для іх мове! „Варваръ“ (зразумей тут, чаму „варваръ)?“, казаў звычайна пры паўтарэньні такіх апавяданьняў адзін з тыповых даўнейшых законавучыцеляў, падыходзячы да хлапца і даючы яму моцную аплявуху. „На колѣни и безъ обѣда!“. І амаль уся кляса на лекцыях Закону Божага кленчыла, а пасьля галадала да самага цямна...

Здаецца, недалёка адышлі ад такога законавучыцеля й цяперашнія староньнікі вучэньня „по-старому“, прытрымоўваючыся „Начаткаў“. Неяк мала хто ўспамінае, але, пэўне-ж, шмат хто ведае, што ня кожны мог асіліць мудрасьць даўнейшай расейскай пачаткавай 3-х аддзяловай школы. Ц -ж мала было такіх, што ў школу хадзілі па 7 па 9 зімаў і не маглі скончыць 3-х аддзелаў? А ўсё з тае прычыны, што навука вялася ў незразумелай для нашых дзяцей расейскай мове, што настаўнікі ня імкнуліся да сьвядомага навучаньня, асабліва-ж законавучыцелі, прытрымоўваючыся правіла: „понимать не понимаю, а отвѣчать могу“...

Вось чаму сьвядомая частка нашага грамадзянства дамагаецца беларусізацыі як праваслаўнае царквы, так і каталіцкага касьцёлу на нашых землях, бо-ж з гэтым зьвязана навучаньне і выхаваньне нашых дзетак, нашае моладзі і ад гэтага, у пэўнай ступені, залежыць нашая будучыня. *П.*

## 15 угодкі здабыцьця мора.

Учора мінула 15 гадоў ад здабыцьця Польшчай доступу да мора. У зьвязку з гэтым варшаўскі аддзел Марской і Каленіяльнай Лігі зладзіў цэлы рад абходаў.

А гадз. 10-ай стараньнем вучыцельскай сэкцыі М. і К. Л. была адчынена дыдактычная марская выстаўка ў аднэй з саляў Нацыянальнага Музэю.

Вельмі асабліва ўрачыста абходзіліся 15-ыя ўгодкі здабыцьця мора ў Гдыні. Горад і порт быў прыбраны нацыянальнымі сьцягамі. У вокнах склепаў былі выстаўлены патрэты Прэзыдэнта П. Р. і Маршалка Пілсудскага.

# Хлебны манапо́ль.

Ад пачатку гэтага году бальшавікі, як ведама, скасавалі картачную сыстэму на хлеб і ўвялі да пэўнай меры вольную прадажу хлеба ды іншых прадуктаў першае патрэбы.

Галоўным купцом, які прадае насяленьню хлеб у СССР, зьяўляецца дзяржава, дакладней—у варунках бальшавіцкага рэжыму—камуністычная партыя. Ад сялянства (калхозьнікаў) збожжа рэквізуецца па цане, устаноўленай урадам, або проста за падаткі ды павіннасьці, дзяржаўныя органы перарабляюць яго на муку, выпякаюць гатовы хлеб розных гатункаў ды пасьля прадаюць гэты хлеб праз *казённыя* крамы ня больш як два кілё ў дзень аднэй асобе.

Вось і ўся „хлебная“ бальшавіцкая рэформа. Як пры прадажы на картачкі, так і цяпер бальшавіцкая ўлада не пераставала і не перастае трымаць у сваіх руках манапольнае права на распараджаньне хлебам у вялізарнай краіне.

Як-жа гэтая ўлада таргуе сваім хлебам, як праводзіць на практыцы „вольную“ прадажу хлеба, пасьля жорсткае картачнае сыстэмы?

Заграні́чныя газэты пішуць, быццам ужо першыя дні студня сёлетняга году паказалі, што з вольнаю прадажаю хлеба ня ўсё ідзе ў бальшавікоў гладка.

Перш за ўсё звольнена было, як паведамляюць з Масквы, 5000 чалавек служачых, якія працавалі ў камісарыяце ўнутранага гандлю над загатоўкаю ды праверкаю хлебных картачак.

Але з гэтым у бальшавікоў — бяда малая. Вуραднікаў сваіх яны заўсёды патрапяць парасьпіхаць па вялізарным дзяржаўна-бюракратычным апараце.

Галоўнае тут—сам блізка што манапольны гандаль хлебам: прадажа яго з *казённых* крамаў кожнаму, хто пакажа грошы, па цане, загадзя ўстаноўленай.

Пачынаючы гэткую прадажу, савецкая ўлада, як і кожны буйны купец, мусіла вылічыць, колькі хлеба яна можа збыць, а значыцца і колькі яго трэба пячы?

Бальшавікі думалі, што пры новай — бяскартачнай — сыстэме кожны жыхар будзе браць хлеба больш, як раней.

Дзеля гэтага выданы быў загад пабольшыць пячэньне хлеба на 7.100 тоннаў у дзень. Старанлівыя выканаўцы, з свайго боку, пабольшылі гэтую норму да 8.500 тоннаў (адна тонна—62 пуды).

1-га студня 1935 году новая сыстэма была ўведзена. І адразу выявілася, што ўсе бюракратычныя аблічэньні былі памылковымі.

За першы-ж дзень у Маскве было куплена жыхарамі на 27% хлеба менш, як у сярэднім за кожны дзень сьнежня 1934 году; пасьля купляньне хлеба пачало павялічвацца, але і дасюль хлеба бяруць на 5% менш, як да рэформы. Да таго-ж яшчэ выясьнілася, што жыхары вымагаюць ня тых сартоў хлеба, якія ім прапануюць. Пякарні пазавальваны чэрствым хлебам, якога ніхто ня купляе; улада аддае загад паменшыць працу ў хлебных заводах, забіваючы гэтым капітал, укладзены ў новыя пякарні.

Чым-жа вытлумачыць паменшанае купляньне хлеба савецкім жыхарствам?

Адказ на гэта, як відаць, адзін: *у жыхароў няма грошай, каб набываць хлеб нават і ў ранейшай колькасьці, ня кажучы ўжо аб колькасьці павялічанай.*

Некаторыя „прароцтвы“, што так яно і будзе, можна было загадзя вычытаць у нумарох савецкіх газэт пад канец сьнежня 1934 году. Бо *дзякавалі-ж* работнікі савецкай уладзе за тое, што яна вучыць іх ня браць хлеба болей, як ім трэба, у той час, як да рэформы яны куплялі ўсю пайковую норму, незалежна ад запраўднае патрэбы ў ёй. У савецкай прэсе высоўвалася таксама думка і аб тым, каб выдаваць асаблівыя беззваротныя пазычкі бяднейшым, абцяжараным вялікімі сем'ямі, работнікам, па кішані якіх рэформа мелася стукнуць з асабліва вялікаю сілай.

Бальшавікі плянавалі іначай. Перш за ўсё яны думалі, што дабаўкі да работніцкіх ды вурадніцкіх пэнсіяў ніжэйшых ступеняў, уведзеныя дэкрэтам 8 сьнежня 1934 году, дадуць гэтым жыхаром магчымасьць браць ранейшую колькасьць хлеба. Ізноў-жа ўлада думала, што заможнейшыя з жыхароў, а таксама і няшчасныя *лішэнцы* (нямеўшыя да рэформы правоў на хлебныя картачкі), купляўшыя хлеб на рынках ад сялян або ў камэрцыйных крамах, пачнуць купляць у ўрадовых пякарнях, дзе цэны шмат ніжэйшыя, як на рынках.

Але тут выйшла, як відаць, зусім ня тое: работнік ці вураднік, атрымаўшы невялічкую дабаўку да пэнсіі, павярнуў яе не на хлеб, а пэўна што на іншыя, яшчэ вастрэйшыя, свае патрэбы; заможнейшае жыхарства таксама ня ўсё перайшло на купляньне ў казённых крамах, дзеля таго, што хлеб там благі дый дзеля таго, што там трэба стаяць у чарзе, хоць і меншай, як пры картачнай сыстэме, прыглядаючыся наагул да розных непарадкаў.

Паміж іншым, бальшавікі думалі зрабіць на манапольным гандлі хлебам вялізарную афэру—зарабіць некалькі мільярдаў. Надзеі хіба што дарэмныя; зусім магчыма, што адабраны ад сялян хлеб застанецца на руках улады бяз руху, бо яго ня зможа купіць, па высокай цане, зруйнаванае гэтаю-ж уладаю жыхарства.

У 1922 годзе, уводзячы НЭП (новую эканамічную палітыку), Ленін сказаў бальшавіком: „Вучэцеся гандляваць“. Дванаццаць гадоў прайшло і гэта самае можа паўтараць ім Сталін, бо бальшавікі ўмеюць толькі руйнаваць быт сваіх паднявольных жыхароў, умеюць ссылаць іх ды расстрэльваць, могуць, ак катаржанам, выдаваць ім убогія пайкі. Але вясьці гандаль сярод хоць крыху вольных людзей, якія сьмеюць тое ці сёе купляць або ня купляць — гэта зусім не ў бальшавіцкай натуры, гэта ўжо нешта „буржуйскае“.

Як пры картачнай сыстэме, так сама і пры новай, савецкі жыхар мае толькі: *Солнечное отопление, лунное освещение, голодное питание и.. гробовое молчание,* — як гаворыцца шэптам у адным з сучасных савецкіх афорызмаў.

*Д. Л.*

## Украінцы пратэстуюць.

За што і хто наслаў забойцу на Кірова, адказаць вельмі цяжска, бо аб сапраўдным стане рэчаў Саветы маўчаць. Агульна гаворыцца, што забойства гэнае было вынікам нейкіх прыватных непаразуменьняў. Нягледзячы на гэта Саветы, а лепш кажучы Сталін спрытна выкарыстаў забойства Кірова дзеля расправы з сваёй апазыцыяй. Ясна, у першую чаргу палілася нявінная кроў на Беларусі, Каўказе і асабліва Украіне, дзе расстрэлена звыш 30 асоб найвыдатнейшых украінскіх палітычных і культурных працаўнікоў. З гэтае прычыны Таварыства Літэратараў і Публіцыстаў ім. Ів. Франка ў Львове вынесла адпаведны пратэст з заклікам падтрыманьня яго іншымі украін. арганізацыямі. На заклік гэты адазваліся: „Саюз Украінак“, народныя дэмакраты, радыкальныя соцыялісты, соцыял-дэмакраты, партыя народнай абновы, партыя радыкальна-дэмократычная, соцыял-дэмократычная работніцкая партыя Вял. Украіны і партыя соцыялрэвалюцыяністаў. Трэба ведаць, што гэныя партыі налічваюць тысячы сяброў і што яшчэ зусім нядаўна некаторыя з іх адносіліся да Саветаў вельмі прыхільна.

# Адказ хадэцкай „Трыбуне“.

У сувязі з зацьверджаньнем унівэрсытэцкімі ўладамі статуту Беларускага Студэнцкага Т-ва ім. Ф. Скарыны, якое па свайму ідэолёгічнаму зьместу зьяўляецца насьледнікам развязанай у канцы 1933 34 акад. год. К! Скорынія, знаходзім у № 4 (15) Студэнцкай Трыбуны (гл. Бел. Крыніца № 5) «куртуазыйнае прывітаньне» новае арганізацыі.

Думаю, што гэтае прывітаньне для закладчыкаў Т-ва ім. Скарыны, пераважна былых сяброў корпарацыі, не зьяўляецца нечым новым і нечаканым. Памятаю добра, як ад самага пачатку існаваньня першае беларускае студэнцкае корпарацыі ў частцы беларускай прэсы, а перадусім у «Беларускай Крыніцы», ня спынялася прост дзікая па стылю і зьместу нагонка, інспіраваная «бела-ліцьвінамі», якія не маглі і ня могуць дагэтуль уявіць сабе, што нешта можа існаваць бяз іх і, што найгорш, нязгоднае з іхнімі паглядамі. Чытаючы ўсе гэныя інсынуацыі, фабрыкованыя згодна з максымамі – «хто ня з намі, той проціў нас» і «мэта апраўдывае сродкі», выносілася ўражаньне, што ўсе гэныя інсынуатары —хворыя людзі і таму я зусім падзяляў становішча скарынчыкаў, што хворым трэба заўсёды ўступіць.

Калі ўся прэсавая акцыя, якая мела на мэце скомпрамітаваць у вачох усяго грамадзянства маладую арганізацыю і такім спосабам яе зьнішчыць, пацярпела поўную неўдачу, пачалі рабіцца спробы ўзарваць корпарацыю знутры. Але тут героі-опортуністы пералічыліся і ўсе спробы скончыліся вельмі сумна і зусім не пагеройскі. Нажаль знайшліся ў Корпарацыі «наіўныя», якія ўмелі так пекна паднасіць часам тоасты за яе памыснае разьвіцьцё: так пекан праліваць сьлёзы, што ўрэшце затапілі гэтымі сьлязамі ўсю арганізацыю. „Бела-ліцьвіны“ і ўсе праціўнікі корпарацыі трыумфавалі, але, відаць, зарана, бо--маеш табе: зьненавіджаны Скарына ізноў уваскрос, у давяршэньні багацейшы ў досьледах.

Дык што-ж рабіць? Бій ізноў, пакуль не ўзмацаваўся. Зьдзірай «новую» маску, але якую—аўтар зацемкі мусіць і сам ня ведае. Хачу яму памагчы і сказаць пад сэкрэтам, што гэтая маска ня новая, а старая, тая самая, якую насіла Скорынія. Зьмяняць яе ня было патрэбы, бо яна яшчэ цэлая, без шнараў.

Бясьсільная злосьць прабіваецца ў вершах гэтай зацемкі аб «новым твары і навейшай варце скомпрамітаваных скарынчыкаў». Хацелася-б укусіць за локаць—ды не дастанеш.

Ведаючы закладчыкаў Т-ва ім. Скарыны, я пераконаны, што ізноў, як калісь, абойдуць гэты бруд моўчкі, уважаючы тлумачэньне ніжэй сваёй годнасьці.

Так-то яно так, але ўсе гэтыя інсуацыйныя артыкулы «Бел. Крыніцы» ад'емна ўплываюць начастку лёгкавернага белар. грамадзянства, а перадусім школьнае моладзі і бел. студэнцтва, якая ня мае магчымасьці даведацца аб фактычным стане рэчаў усіх закулісных падзеяў і дазваляе весьці сябе на пастрамку тым ці іншым „культурным налём“ з полацкае парафіі

З увагі на гэта зьвяртаюся да Рэдакцыі „Роднага Краю“ з просьбай аб удзяленьні кутка ў сваёй газэце, каб мець магчымасьць адчыніць *вольную трыбуну* для спраў беларускага студэнцтва. Трыбуна гэтая дазволіць шмат чаго выясьніць усім людзям добрае волі, якія незасьлеплены тымі ці іншымі сьветапаглядамі, аподыктычна падаванымі „ex cathedra і маюць хоць крыху пачуцьця крытыкі і... гумару.

Маім шчырым пажаданьнем было-б тое, каб да гэтай запраўды вольнай трыбуны мела-б доступ вольная думка — базбаўленая „духоўнай“ цэнзуры—так прыхільнікаў, як і праціўнікаў тых форм, у якіх вылівалася Скорынія, а цяпер выльецца Т-ва ім. Скарыны, але з той малой засьцярогай, што стыль і зьмест адпавядаў-бы агульнапрынятаму роўню ў культурным сьвеце.

Смакавітае калупаньне ў брудзе бяз жалю можна пакінуць так шумна званай „Студэнцкай Трыбуне“ vel хадэцкай амбоне — да якой маюць доступ выключна аўтары „дэкадэнтызму — у этыцы“ (злосныя людзі кажуць, што хутка мае выйсьці з пад пяра таго-ж аўтара артыкул аб „футурызме маралі“)—і «Бел. Крыніцы», найстарэйшай беларускай газэце, якая, відаць, дзеля гэтага, як кажуць палякі, „cіegri na uwiąd starczy“. Сам Воранаў быў-бы ў гэтым выпадку бясьсільны, дык што казаць аб спэцу ад neoplasmatibus і яму падобных.

На заканчэньне хачу сказаць закладчыкам Т-ва імя Скарыны наступнае: веру моцна, што ў барацьбе з хадэцкім клерыкалізмам і дробнамяшчанскім догматызмам, працуеце на карысьць лепшай будучыні, вольнае ад обскурантызму і нетолеранцыі, так характэрнай для бел. хрысьц. дэмократыі, а на ўсякія „зьдзіраньні масак“ ёсьць прыказка, што „калі Бог ня выдасьць, то і... хадэцыя ня зьесьць“.

*K. S.*

## З царко́ўнага жыцьця.

*Усё пастараму.* Прат. Выдыбіда-Гудэнко, аб каторым пісалі мы ў папярэднім нумары, атрымаў становішча другога сэкрэтара пры Сынодзе і таму ў Вільню ня трапіць. Такім чынам прадбачаныя зьмены сярод віл. духавенства не адбудуцца.

*Календар для праваслаўных палякаў.* Апошнімі днямі вышаў календар для праваслаўных палякаў у польскай мове. Аддзел інфармацыйна-літэратурны ў ім багаты і апрацаваны старанна, але абрадавы, асабліва пераклацы малітваў, зроблены вельмі слаба. Ёсьць шмат памылак, якія зьмяняюць падставовыя догматы веры. Календар гэты мае быць Віл. Кансысторыяй пашыраны ў беларускай вёсцы.

*Прыход для прав. беларусаў у Вільні.* „Kur. Wil.“ з дня 2 лютага г.г., абгаварываючы бягучыя царкоўныя справы, заявіў, што прав. беларусы ў Вільні маюць сваю прыходскую царкву. Вось жа гэта разьмінаецца з праўдай, бо Пятніцкая царква ня ёсьць самастойным прыходам і аддадзена толькі для бел. гімназіяльнай моладзі. Урэшце царква гэтая ня мае сталога штату—сьвяшчэньніка і псаломшчыка. Аб'яднаныя бел. прав. арганізацыі якраз-жа павінны ў першую чаргу зажадаць для прав. беларусаў у Вільні самастойную прыходскую царкву (прыкл. Сьв. Мікалая), дзе маглі-бы яны стала і кожную нядзелю зьбірацца на малітву і беларускую пропаведзь.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— У папярэднім нумары „Роднага Краю“ была выказана думка, што каталіц. Хадэцыя, замест безадказна, абразьліва гаварыць аб беларусізацыі царквы, куды лепш зробіць, калі займецца акцыяй беларусізацыі ўласнага касьцёла. На гэную рэчовую заўвагу „Бел. Крыніца“ адказала, як заўсёды, лаянкай. Аднак наш рэчовы голас змусіў, відаць, хадэкаў крыху прызадумацца. 20 студзеня г. г. хадэцкі Касьцельны Камітэт, між іншымі справамі, пастанавіў „прыступіць да арганізацыі рэлігійнага жыцьця беларусаў-каталікоў у форме асобнай парафіі“.

Памажы Божа!

— *Вечарына у БСС.* 16.II.35 г. Бел. Студ. Саюз ладзіць на карысьць незаможных сяброў суботнік, які адбудзецца ў памешканьні Саюзу. Уваход для студэнтаў і запрошаных гасьцей,

